Год I. Нядзеля, 31 Кастрычніка 1926 г. м. Вільня. № 2.




ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ

Выходзіць раз у тыдзень. | З ІЛЮСТРАЦЫЯМІ. | Цана нумару 20 гр.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя нашай газэты перанесяны ў памешканьне „Беларускай Хаткі“: Вільня, вул. Сьв. Анны № 2 (Wilno, ul. św. Anny, № 2), па якому адрэсу просім перасылаць усю карэспандэнцыю на імя газэты.

# ПАТРЭБА АБ'ЕДНАНЬНЯ.

У зьвязку з распачатай майскім пераваротам агульнай перабудовай грамадзкага жыцьця ў Польшчы, выплыла і стала, бадай на першым месцы, заданьне ўрэгуляваньня пытаньня аб нацыянальных меншасьцях. І уся, нават правая, польская прэса сьцьвярджае неабходнасьць зьмены дасюляшняй палітыкі ў адносінах асабліва да Беларусаў і Украінцаў і найхутчэйшага правядзеньня рэформаў.

Праўда, дагэтуль штосьці ня чуваць нічога аб гэтых рэформах, аднак з таго, што пытаньню аб меншасьцях цяпер асабліва многа месца ўдзеляе прэса кіруючай жыцьцём дзяржавы дэмакратыі відаць, што гэтае пытаньне сапраўды некалі зыйдзе са шпальтоў газэт і з вобласьці абяцанак нарэшце пяройдзе ў жыцьцё. Яркім паказчыкам гэтага зьяўляецца зьмешчаны намі ў гэтым жа нумары артыкул органу найбольш моцнай дэмакратычнай групы Польшчы — „Robotnik“. Орган П.П.С. на‘т прапануе і нешта канкрэтнае на шляху зрэалізаваньня майскіх забавязаньняў адносна нацыянальных меншасьцяў, а ласьне — прапануе ўвайсьці ў паразуменьне з дэмакратыяй гэтых меншасьцяў.

Хаця з дасьвядчэньняў мінуўшчыны і дасюляшняй сучаснасьці і трудна набрацца нейкага аптымізму адносна хуткіх і сапраўды здавольваючых нас вынікаў, як заклiку да паразуменьня, так і рэальных вынікаў самога паразуменьня, аднак мы хочам верыць, што гэты заклік зусім шчыры, і што ён ёсьць першым этапам новай эры у ўзаемаадносінах пануючай нацыі і нацыянальных меншасьцяў Польшчы.

А з гэтай веры выплывае неабходнасьць сур‘ёзнай падгатоўкі да магчымай супольнай працы па перабудове жыцьця дзяржавы і апрацаваньня варункаў паразуменьня і супрацоўніцтва.

Аднак тут адразу высоўваецца пытаньне: а хто з нашага боку, як прадстаўнік нашай дэмакратыі, павінен і *можа* ісьці, хто можа гаварыць ад імя *ўсяго* беларускага народу, якая з партыяў ці групаў можа ўва ўсей паўнаце і аб‘ектыўнасьці выявіць патрэбы, жаданьні і імкненьні нашага Народу?

Не знаёмаму з нашай сапраўднасьцю гэтае пытаньне пэўнеж пакажацца проста парадоксам: Як-жа гэта так? Столькі партыяў, Соймавае прадстаўніцтва, Саюзы, Камітэты, Рады... А вось у тым ласьне, што за шмат у нас развялося гэтых груп, партыяў і партыяк — і ёсьць уся бяда, бо ёсьць у нас партыі, ёсьць групы, ёсьць на‘т і гэнаралы „ад руху“, але няма агульнага прадстаўніцтва *ўсяго* беларускага народу. Няўдалая палітыка беларускага пасольскага клюбу, яго апазыцыя для апазыцыі і няздольнасьць нашых паслоў да творчае працы, завёўшы іх у тупік бясплодных пратэстаў і нэгацыі—прывела да падзелу клюба на групы, а разам з тым разьбіла адзіны да таго нацыянальны фронт і пазбавіла нашае парлямэнцкае прадстаўніцтва павагі і аўтарытэту прадстаўніцтва ўсяго народу. Кожная з паўстаўшых з распаду клюбу груп, стварыўшы сабе праграму па нейкім сацыяльным адзнакам, стала выразіцельніцай інтарэсаў толькі даннай сацыяльнай групы, даннай — нат мо‘ і ня істнуючай у нас клясы. Гэткім чынам кожная з гэтых групаў такжа ня можа прадстаўляць інтарэсы *ўсяго* беларускага народу. Праўда, Сялянска-Работніцкая Грамада як быццам абняла сваёй праграмай усе патрэбы беларускага народу.

Яна на'т адкрыла няістнуючы ў нас пралетарыят, ад імя якога граміць буржуяў. Але нажаль, гэтая партыя надта далёка зайшла у сваім радыкалізме і з кожным днём усё болей зыходзіць з нацыянальнага грунту, які не адпавядае ўжо разьмерам яе радыкалізму і глыбіні „сацыяльнага" размаху. Гэты радыкалізм, рэвалюцыйнасьць і імглістасьць нацыянальнага аблічча „Грамады"—дае ёй пасьпех толькі сярод нясьпелай моладзі, палітычнага анальфабэтызму, ды асабліва пакрыўджаных, якія сьлепа ідуць за тымі, хто дае найбольш моцны выраз нагарэўшаму ў іхняй душы пратэсту. Умяркаваныя элемэнты, цьвярозыя і сьпелыя вумы—трымаюцца з далёку ад Грамады. А значыцца Грамада таксама ня можа гаварыць ад імя ўсяго народу.

Гэткім чынам на парадак дня нашага палітычнага жыцьця ўсплывае патрэба стварэньня адзінага нацыянальнага фронту, аб'еднаньня на грунце нацыянальным усіх дэмакратычных і—рэч зразумелая—прызнаючых польскую дзяржаўнасьць партый, груп, і групак.

Гэтае аб'еднаньне, калі-б нават і не дайшло да мэты нейкае паразуменьне з польскай дэмакратыяй, будзе мець надзвычайна важнае значэньне ў нашым жыцьці, аздаровіць ненармальныя нашыя ўзаемаадносіны, гэтак спаскуджаныя цяпер вечнай грызьнёй ды лаянкай; будзе нашым атэстатам палітычнай сьпеласьці. Усе гэтыя дасюляшнія падзелы, ўся гэтая ўзаемная барацьба ўнутры — толькі марнавалі бяз ніякай карысьці нашыя сілы і энэргію, а вонкава—давалі ворагам права цешыцца, што з формулы divide et impera — ім застаецца толькі другая частка, а прыяцелём—шчыра шкадаваць, што мы трацім свае сілы на паеданьне адзін аднаго.

Нам—няма чаго дзяліць. Увесь наш народ мае аднолькавыя жаданьні, адно няшчасьце. Партыйнасьць—зло нават між арганізаваных у дзяржавы народаў. Для народаў-жа, якія толькі выходзяць на арэну палітычнага быцьця, партыйнасьць—няшчасьце.

Мы павінны браць прыклад з болей моцных, сьвядомых і палітычна сьпелых народаў, з другіх нарэшце нацыянальных меншасьцяў Польшчы. Ня кажучы ўжо аб немцах, якія вонкава зьяўляюцца нейкім проста монолітам, нашыя браты украінцы стварылі гэткае аб'еднаньне (УНДО); таксама зарганізаваліся расейцы, арганізуюцца жыды. А ува ўсіх гэтых меншасьцяў істнаваньне розных партыяў мае падставу у тым, што гэтыя народы маюць ўжо клясавы падзел грамадзянства, а значыцца і сацыяльныя розьніцы.

Сяньня, мо' болей чым калі небудзь, мы павінны выказаць сваю здольнасьць да згоды і арганізованасьці. Як-бы хто ні адносіўся асабіста да заклiку польскай дэмакратыі да паразуменьня нашая дэмакратыя не павінна абыйсьці гэты заклік моўчкі. У інтарэсах свайго народу мы павінны дабіцца гэткага паразуменьня і супрацоўніцтва. Але на гэтае паразуменьне і супрацоўніцтва мы ня пойдзем, не маем права ісьці, як нейкая нязначная група, мы павінны зьявіцца як моцная лічбай і ўнутранай згодай арганізаваная дэмакратыя свайго Народу.

Кіньма-жа, беларусы, сварыцца! Даволі падзелаў! Усе пад сьцяг **беларускага нацыянальна-дэмакратычнага аб'еднаньня.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## Пачатак сэсіі Сойму.

Апошняя ў гэтым годзе сэсія Сойму пачнецца ў суботу 30 кастрычніка. Перадусім Сойм займецца разглядам бюджэту на 1927 год. Есьць чуткі, што на павестку будзе пастаўлена пытаньне аб роспуску Сойма, вызначэньні новых выбароў і зьменах выбарнага закону.

## Польская нота Саветам.

23 кастрычніка польскі пасол у Маскве даручыў Савецкаму ўраду ноту ў зьвязку з падпісаньнем савецка-літоўскага гарантыйнага дагавора, якім Саветы сьцьверджаюць права літоўцаў на Вільню.

## Выезд маршалка Пілсудскага у Нясьвіж.

24 кастрычніка Маршалак Пілсудскі, разам з міністрамі Мэйштовічам, Незабытоўскім і Рамоцкім выежджаў у Нясьвіж, дзе прымаў вучасьце ў зьездзе крэсавых земляўласьнікаў.

Варшаўская польская прэса прыдае гэтаму зьезду важнае палітычнае значэньне, зазначаючы між іншым, што амаль ня ўсе вучасьнікі яго належаць да манархістаў.

## Магчымасьць адстаўкі міністра Марачэўскага.

У Варшаве ходзяць чуткі, што ў зьвязку з адбыўшымся гэтымі днямі ў Нясьвіжы зьездам міністар Марачэўскі (ППС.) маніцца падацца ў адстаўку.

## Законапраэкт аб зьмене выбарнага закону.

Варшаўскія газэты паведамляюць, што Урад маніцца перадаць у Сойм апрацаваны ўжо законапраэкт аб зьмене выбарнага закону. Новы закон скіраваны галоўным чынам проці нацыянальных меншасьцяў і комуністаў, а таксама прадугледжвае павялічэньне адукацыйнага цэнзу паслоў.

# БАЗЫЛЬЯНСКІЯ МУРЫ.

Ужо амаль што не 5 гадоў цягнецца працэс паміж урадам і праваслаўнай кансысторыяй за базыльянскія муры. Працэс яшчэ ня скончаны і няма ведама, калі кончыцца ды з якім рэзультатам.

Ад часу, як заснавалася ў Вільні першая беларуская гімназія, разам з ёю заселі ў базыльянскіх мурох і інш. беларускія ўстановы: прытулак, музэй, праз нейкі час — нацыянальны камітэт ды інш.

Каб у змаганьні за базыльянскія муры парушыць польскае грамадзянства і настроіць яго варожа галоўным чынам проці беларусаў, вядомым польскім шовіністам, Вацлавам Студніцкім, была пушчана нягодная, сэнсацыйная вестка, быццам беларусы паганяць г. зв. „цэлю Конрада“.

Ведама, што ў пачатку мінулага стагодзьдзя ў базыльянскіх мурох, якія тады спаўнялі ролю вастрога, сядзеў за справу гуртка філярэтаў пясьняр зямлі нашай, польскі паэт Адам Міцкевіч.

Пан Студніцкі даказваў, што пакой, у якім сядзеў знаманіты вязень, у часы расейшчыны быў перароблены ў.. патрэбнік (00) і што беларусы і далей гэты пакой утрымоўваюць у гэткім стане, як расейцы.



Частка Базыльянскіх муроў. Крыжыкам абазначана месца дзе была „цэля Конрада“.

З лёгкай рукі п. Студніцкага хутка паявілася і „навучная праца“ праф. Пігоня, які ў сваёй брашурцы даказваў тое самае. Дайшлі да мэты. Трэба было польскае грамадзянства настроіць варожа проці беларусаў. І шырокія масы, веручы ў добрую волю п. Студніцкага і ў „вучонасьць“ праф. Пігоня, былі пераконаны, што беларусы зьдзекуюцца над дарагой для кожнага польскага сэрца памяткай.

Але ў 1923 г. паявілася, напісаная папольску Ант. Луцкевічам і выданая беларускім Навуков. Т-вам брашурка п. з. „Prawda o celi Konrada“, у якой аўтар даказаў рысункамі, плянамі, дакумэнтамі і цытатамі з твораў Міцкевіча, што месца, аб якім ідзе гутарка, зьяўляецца зусім новай прыбудоўкай, а таго калідора, у якім некалі сядзеў вялікі паэт, ужо даўно няма ані шчэнту.

Гэткім чынам кінутае беларусам цяжкае абвінавачаньне ў дзікім і злостным варварызьме было адбіта.

Якае значэньне для беларусаў мае працэс праваслаўнай кансысторыі з урадам за базыльянскія муры? Дагэгуль беларускія ўстановы карыстаюцца там памешканьнем, але гэта толькі дзеля таго, што праваслаўнае духавенства, якога большасьць ня менш варожа настроена да беларусаў чымсь п. п. Студніцкія — Пігоні et tutti quanti само яшчэ ня чуецца моцным у гэтых мурох. Калі-б жа праваслаўнае духавенства выйграла, дык таксама мала цэрэмонілася-бы з беларусамі.

Гэткім чынам зацяжнасьць працэса беларусам толькі на карысьць.

Наша ілюстрацыя прадстаўляе частку базыльянскіх муроў. Крыжыкам абазначана тое месца, дзе калісь была „цэля Конрада“, цяпер паросшае травой.

---

БЕЛАРУСЫ! Пішэце нам аб жыцьці сваіх вёсак, хто як умее, падаючы толькі праўдзівыя факты. Карэспандэнцыі павінны быць з праўдзівымі імем, прозьвішчам і адрасам аўтара, але гэта толькі для ведама рэдакцыі. Падпісаны-ж яны могуць быць псэўдонімам.

# ЗА ТЫДЗЕНЬ.

Апошні час адзначыўся ў эўрапэйскай палітыцы новым здарэньнем, якое можа адыграць вялікую ролю у будучай гісторыі Эўропы. Мы маем на ўвазе гэт. зв. „пан'эўрапэйскі" (агульна эўрапэйскі) кангрэс, які адбыўся 26 верасьня ў Вене.

Яшчэ два з паловай — тры гады назад адзін малады нямецкі вучоны—граф Кудэнгоф-Калержы выступіў у прэсе з прапагандай ідэі „пан'эўропэізму", сутнасьць якой наступная: Эўропа ня толькі не папавіцца ад ранаў, якія ёй нанясла вайна, але нават можа зусім загінуць, калі толькі не будзе створаны агульны саюз эўрапэйскіх дзяржаваў кшталтам Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі. Эканамічны крызіс можа скончыцца толькі тагды, калі будуць зьніштожаны палітычныя, таможныя і нацыянальныя перагародкі; калі ня будзе канкурэнцыі, таможаных войнаў і г. д.

Але ў той час мала хто з палітыкаў і вучоных зьвярнуў увагу на гэтую ўтапічную ідэю, бо жыцьцё казала зусім іншае: немцы вялі бязкроўную вайну з французамі ў Рурскім басэйне, ішла таможная вайна паміж Нямеччынай і Польшчай і наагул здавалася, што мірнае сужыцьцё народаў немагчыма. Аднак Рурскі канфлікт быў зьлiквідаваны, зьявіўся плян Давуса, Лёкарно, Нямеччына ўвайшла ў Лігу Народаў, стварыўся зялеза-стальны трэст, стаў магчымым саюз Нямеччыны з Францыяй.

А ў гэты час ідэя Кудэнгоф-Калержы заваёўвала ўсё больш і больш прыхільнікаў, і нарэшце сталася гэтак папулярнай, што зьявілася патрэба ў склiканьні агульна-эўрапэйскага кангрэсу з мэтай усебаковага разгляду яе і адшуканьня спосабаў і сродкаў для правядзеньня яе ў жыцьцё.

І венскі кангрэс быў трыумфам гэтай сьмелай ідэі. На яго з'ехаліся прадстаўнікі 28 эўрапэйскіх дзяржаваў. Паміж прысутнымі былі гэткія вялічыні, як Кайо, Пэнлявэ, Макдональд, Вірт, Бэнэш, Керэнскі, Ал. Лядніцкі, шмат дэпутатаў, журналістаў і г д.

Ад імя Аўстрыі выступаў аўстрыяцкі канцлер Зэйпэль, які ў сваёй прывітальнай прамове зазначыў, што „панэўропэізм" ня мае на мэце зьніштажэньня самастойнасьці эўрапэйскіх народаў. Ад імя Польшчы вітаў кангрэс А. Лядніцкі, які адзначыў, што яшчэ вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч лятуцеў аб „пан'эўропе". Ад імя расейскай эміграцыі выступаў Керэнскі. Але найвялікшы энтузіязм выклікала выступленьне самога прапаведніка гэтае ідэі Кудэнгофа, які зазначыў, што гэтая ідэя існуе яшчэ толькі тры гады. Пан'эўрапэйскі рух—гэта рэвалюцыя брацтва, дэклярацыя міра і гуманізма. А наступны кангрэс будзе ўстаноўчым сабраньнем саюзу эўропэйскіх дзяржаваў.

Усе дакладчыкі ў сваіх прамовах казалі тое самае: што далейшае розьнь паміж дзяржавамі Эўропы вядзе яе да эканамічнай катастрофы. Да гэтага часу кожная дзяржава, баючыся канкурэнцыі, забясьпечвае сваю прамысловасьць пошлінамі. Аднак гэты мэтад робіць тое, што кожны народ карыстаецца ў сябе значна даражэйшымі таварамі, чым можна было-б купіць заграніцай. Пошліны адбіваюцца на экспорце, заработная плата работнікаў зьмяншаецца, а ў рэзультаце гэтага — бязупынныя забастоўкі і сацыяльныя беспарадкі. Калі ідэя „пан'эўропы" пераможа, дык спыняцца эканамічныя непаразуменьні паміж дзяржавамі і эканамічнае аб'еднаньне Эўропы дасьць, замест зьніштажаючай усё вайны — агульны мір.

Перад самым закрыцьцем кангрэсу прыехаў у Вену французскі міністар Дюбо. У сваёй прамове ён зазначыў, што французскі народ аддасьць усе свае сілы на карысьць ідэі пан'эўропы.

Больш за ўсіх на кангрэсе былі прадстаўлены і больш казалі немцы. Гэта іх уласная ідэя, ад якой яны спадзяюцца мець найбольш карысьці. Калі ім ня ўдалося перамагчы Эўропу аружнай сілай, дык яны рашылі перамагчы Эўропу эканамічна. У выпадку стварэньня Пан'эўропы і зьніштажэньня таможных перагародкаў, Нямеччына, як дзяржава з больш магутнай прамысловасьцю, можа пашырыць сваю эканамічную гегемонію на ўсю Эўропу. Гэта і зьяўляецца абаротнай старанай мядалі.

---

# Татунькіна місія.

(Нязвычайнае, але фактычнае здарэньне).

II.

## Першы дзень у Вільні.

А на другі дзень па прыезьдзе пана Татунькі ўсе віленскія газэты, апрача беларускіх, надрукавалі заметку гэткага зьместу: „Учора ўначы, як мы даведаліся, прыбыў з літоўскага пагранічча пан Татунька — вядомы ўсім палітычны дзеяч і буйная фігура паміж беларускіх эсэраў..." Прыбыў ён проста з Коўні, пяхатою і без „пшэпусткі" і дзеля гэтага на пагранічу крыху заблутаўся ў калючым дроце, і каб ня яго характэрная фігура, вядомая нашым пагранічнікам яшчэ з 1919, 1920 і 21 гадоў, дык ня гэтак бы лёгка ён выблутаўся з гэтага дроту і ня гэтак бы хутка апынуўся-б ў Вільні... Кажуць, быццам адна з суседніх дзяржаваў надала яму нейкую спэцыяльную і паважную місію, дзеля чаго на'т у маленькай Літве была прадастаўлена для яго дармавая кватэра з ганаровай вартай і бясплатным утрыманьнем, і што гэткая ўвага літоўскіх урадоўцаў так уплынула на пана Татуньку, што ў падзяку за гэта не захацеў ён карыстацца з бюджэта дзяржаўнага і адмовіўся і ад бясплатнага пакою і ад бясплатнага утрыманьня і свой шляхэтны парыў адразу давёў да ведама Літоўскага Ураду, абвясьціўшы „галадоўку"... Спацзяёмся і чакаем, — дадаў „Dziennik Wileński" да гэтае заметкі, што і нашыя ўлады гэтак сама будуць уважны да асобы п. Татунькі і не адмовяць яму ў гэткай самай прыемнасьці..."

Дзеля таго, што фактычна ніхто яшчэ з беларусоў не бачыў у твар пана Татунькі, — газэтная заметка гэтая не зрабіла на іх вялікага ўражаньня, бо да гэткіх сэнсацыяў у польскай прэсе, дзе ў большасьці і факты, а на'т і прозьвішча бываюць перакручаны, колы беларускія былі прызвычаяны і мала зварачвалі ўвагі.

Але як бы там ня было, а чуткі аб прыезьдзе п. Татунькі, няведама як, пачалі ўжо распаўсюджывацца па цэлай Вільні і даляцелі да сядзібаў палітыкуючых і палітыканствуючых дзеячоў беларускіх...

Даўно ўжо ня было гэткага руху ў эўрапэйскай дыплёматыі, як у апошні час. Адначасова ў некалькіх мясцох вяліся гутаркі паміж дыплёматамі розных дзяржаваў па самым балючым сучасным пытаньням. Эўрапэйская прэса не пасьпявала сачыць за палітычнымі падзеямі, зьявіўшыміся ў рэзультаце гэтай дыплёматычнай работы.

Пачатак гэтаму руху палажыла спатканьне Брыяна з Штрэзэманам у Туары, якое выклікала незадаваленьне і недаверыя ў Лёндане і Рыме. І быццам у адказ на гэта англійскі міністар заграніччных справаў з Жэнэвы паехаў у Італію на спатканьне з італьянскім дыктатарам Мусаліні. Гэтае спатканьне адбылася ў Ліворна і было акружана яшчэ большай таемнасьцю, чым канфэрэнцыя ў Туары. Праўда, англійская і італьянская прэса стараюцца ўсімі сіламі аслабіць уражаньне ад гэтай канфэрэнцыі, ня прыдаючы ёй міжнароднага характару, але ня ўсе з гэтым згаджаюцца. Перадусім трэба зазначыць, што як Англію, гэтак і Італію вельмі непакоіць праектаванае францускa-нямецкае палітычна-эканамічнае зьбліжэньне, якое шпаркім крокам ідзе ўперад і пагражае францускa-нямецкай гегемоніяй над Заходняй Эўропай. Як ведама, Італія імкнецца да умацаваньня сваіх уплываў як у ўсходняй палове Сяродземнага мора, гэтак і на Балканах. У гэтай сваёй экспансыўнай палітыцы на Бл. Усходзе Італія спатыкае найбольшую перашкоду з боку Францыі. Дзеля гэтага Італія патрабуе староньняга падтрыманьня, якое можа ёй даць толькі Англія і часткай Гішпанія. І вось з Гішпаніяй ўжо падпісана гарантыйная ўмова, а з Англіяй Італія дагаварылася цяпер на тайнай канфэрэнцыі ў Ліворна. Італія, як марская дзяржава, заўсёды мусіла паважна лічыцца з Англіяй, як першай па сіле марской дзяржавай. Досьць будзе паказаць на тое, што пад націскам галоўным чынам Англіі Італія была прымушана зламаць саюз з Нямеччынай і Аўстра-Вэнгрыяй у пачатку сусьветнае вайны і прыняць вучасьце на старане Англіі, Францыі і Расеі ў вайне проці Нямеччыны. Цяпеража ў Італіі ёсьць свае прычыны для непаразуменьня з Францыяй і Нямеччынай з-за імкненьня апошняй да прылучэньня да сябе Аўстрыі і пашырэньня сваей палітычна-гаспадарчай гегемоніі ў паўднёва-усходнім кірунку. Праціўвагай гэтаму павінен служыць, апрача зьбліжэньня з Англіяй, яшчэ падпісаны нядаўна трактат з Румыніяй, на моцы якога Італія ў першы раз прызнае Бэсарабію за Румыніяй. Гэтым актам Італія пракладае сабе шлях праз Балканы на Ўсход і перацягвае на свой бок Румынію, якая з свайго боку патрабуе больш рэальнай дапамогі на выпадак збройнага канфлікту з Радавай Расеяй. Каб пакончыць з дыплёматычнай акцыяй у Зах. Эўропе, трэба яшчэ адзначыць польска-сэрбскі трактат прыязьні, які быў падпісаны ў Жэнэве ў часе мінулай сэсіі Лігі Народаў. Гэты трактат зьяўляецца рэзультатам цэлай сыстэмы трактатаў узаемнай прыязьні, зьвязвуючых Малую Антанту з Польшчай і Францыяй і служачых гарантыйнай міра ў Сярэдняй Эўропе. Гэткім чынам зьвязаны паміж сабою гарантыйнымі трактатамі ці трактатамі прыязьні: Францыя, Польшча, Чэха Славакія, Сэрбія і Румынія. Да гэтага агульнага саюзу далучаецца, праўда толькі з аднаго боку, праз трактат прыязьні з Румыніяй і Італіяй. **Я. Ш.**

## З Украінскага жыцьця.

У мінулую нядзелю, 10 кастрычніка, у Львове адбылася нарада ўкраінскіх палітычных дзеячоў, на якой пастаноўлена стварыць новую партыю пад назвай „Работніцка-сялянскае сацыялістычнае аб'еднаньне“. Гэта новая партыя маніцца пашырыць сваю дзеяльнасьць на тэрыторыю Ўсходняй Галіцыі, Валынь, Холмшчыну і Палесьсе. Стварылася яна ў рэзультаце аб'еднаньня партыяў „Сялянскага Саюзу“ і „Народнай Волі“. У цэнтральны камітэт новай партыі ўвайшлі дэпутаты Сойму: ад Валыні — Чучмай, Казіцкі, Макувка, рэдактары Вальніцкі, Пелехаты і д-р Заец. Цэнтральны камітэт будзе складацца з 18 чалавек. Новая партыя маніцца ў бліжэйшай будучыне выдаваць у Львове штодзённую газэту. Праграма партыі адзначаецца сваёй рэвалюцыйнасьцю. Вядомы украінскі радыкал дэп. Васынчук пакульшто яшчэ ня выказаў сваіх адносінаў да гэтай партыі. Аб'еднаньне будзе прымаць вучасьце ў выбарах у новы Сойм.

---

Пачаліся рады, парады і нарады...

— Інтрыгі эсэраўскія, альбо дэфэнзыва—казалі ў „Грамадзе“.—І калі прыехаў нат бяз пропуску і ня сядзіць яшчэ побач з нашым рэдактарам, дык ня інакш, як справа цёмная...

І паляцеў загад: стварыць яшчэ новых 50 гурткоў, дый на ўсялякі выпадак узмацаваць ахову каапэратыўнага банку.

У беларускіх „хадэкаў“ толькі адмахнуліся: „А дайце нам сьвяты супакой!.. Што нам Татунька і што мы Татуньцы!.. Мы каталікі, а ён чорт яго ведае хто?!..“

Арганізатар „Сялянскага Саюзу“, трымаючыся за бакі, доўга хахатаў: „Хо, хо, хо—калыхалася яго пуза—Павал Васільявіч! —хо-хо-хо... чулі?!. Татунька з місіяй!.. ха, ха ха!.. Вось так індывіндум! Але трэба быць консэнквэнтным, няхай ідзе да Паўлюкевіча, а нам напляваць на ўсялякія місіі“..

Зусім інакш было ў гатэлю Сакалоўскага:

„Панімаеце-лі — ўляцеў ў пакой да „дарадчыка“ доктар з газэтай у руках — Татунька прыехаў! Панімаеце-лі, тутка зьезд на носе, а ён прыехаў, дый яшчэ з нейкай місіяй!.. Я гэтага не сьцярплю... Канкурэнцыя! — Панімаеце-лі, я зараз-жа пайду...

— Чакайце, чакайце, пане доктар, не гарачыцеся—перабіў яго „дарадчык“— да гэтае справы трэба падыйсьці зусім з іншага боку. Трэба Татуньку запрасіць, падаць і вывідаць.:.

— Ааа, панімаеце-лі, вы правы!..

— Але-ж, панэ — умяшаўся Онвід — трэба ведаць, што пана Татуньку ня так лёгка напаіць...

— Ну ўсё гэта залежыць ад кумпаніі і ад гэтага — тутка „дарадчык“ падняў руку і неяк пацёр пальцы аб пальцы...—Пажал'це, гаспадзін доктар...

— Што?! Понімаеце-лі, я так і думаў!.. Кольkі?!. — і доктар палез у партфэль...

Сябры „Часовае Рады“ пераглянуліся. Онвід засьвісьцеў і пачаў разглядаць на сьцяне пустое мейсца, дзе некалі вісеў партрэт Дунін-Марцінкевіча. Сэкрэтар паціраў рукі, а „дарадчык“ увесь укутаўся ў дыме ад папіросы.

— Як колькі?!. Ну ведама, пане доктар, на чатырох і ў падвойнай колькасьці — адразу падлічыў „дарадчык“...

# АГЛЯД ПРЭСЫ.

У зьвязку з забойствам у Львове школьнага кYратара Сабінскага, „Robotnik", у перадавіцы пад загалоўкам „Страўсавыя мэтады", зьмешчанай у № 291, высказвае гэткія цікавыя і для нас, беларусаў, думкі:

Нацыяналістычная прэса, ў зьвязку з забойствам школьнага куратара ў Львове—Сабінскага, распачала гвалтоўную кампанію проці ўсяго украінскага грамадзянства. Трудна прыдумаць больш неразумную тактыку. Аб тым, каб можна была вінаваціць у гэтым, якую колячы вялішкую украінскую партыю — ня можа быць і мовы. Калі-б нават сьледзтва і сцьвердзіла, што забойства зрабіла пэўная палітычная тэрорыстычная група, дык і ў гэтым выпадку адказваць павінны толькі і выключна беспасрэдныя спраўцы.

Адно ёсьць пэўным: львоўская трагэдыя — гэта перасьцярога, паказчык, што завастрэньне нацыянальных узаемаадносінаў у Польшчы дайшло да апошніх граніцаў напружаньня. Гэта сьцьверджаюць інфармацыі са ўсіх усходніх ваяводзтваў. Усюды сярод Украінцаў і Беларусоў пашыраюцца ўплывы элемэнтаў нацыяналістых, або комуністычных. *Галасы напрамкаў шчыра дэмакратычных, якія імкнуцца да згоднага сужыцьця і супрацоўніцтва з польскім народам, гінуць бяз водгуку*... у Варшаве.

Пяць месяцаў прайшло ад часу майскага перавароту. Колы, якія сяньня трымаюць у сваіх руках уладу ў Польшчы, не зрабілі да гэтага часу нічога, што паказвала-б на рашучую перамену урадавай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў; не стварылі ані праграмы, ані нават пляну рэформаў; справа нацыянальных меншасьцяў адложана „на пазьней", ня гледзячы на тое, што жыцьцё няўхільна ідзе ўперад, што ў нашых абставінах кожны дзень „адкладаньня" усьцяж абарачвае далей і далей кола гісторыі.

Чэхаславацкая Рэспубліка дапусьціла ў склад Рады міністраў нямецкіх прадстаўнікоў, ня гледзячы на тое што немцы яшчэ нядаўна былі рашучымі ворагамі маладой дзяржавы. Польскія-ж урады ня ўмеюць даць сабе рады з экспэрымэнтамі штодзённай школьнай палітыкі, з „выбрыкамі" провінцыяльных адміністратараў, з відавочнымі ці скрытымі націскамі ваяўнічага нацыяналізму.

Абгаварываючы далей адносіны Польскай Партыі Социялістычнай да пытаньня аб нацыянальных меншасьцях, аўтар, між іншым, кажа:

„...жадаем праўдзівага раўнапраўя; праз выкананьне Уставы Констытуцыйнай *жадаем дайсьці да тэрыторыяльнай аўтаноміі Украінцаў і Беларусаў*.

І далей:

Надыходзіць гадзіна рашучых пастановаў і запраўды энэргічнай працы. Інакш усьцяж будзем таўчыся ў дрыгве нацыянальнай барацьбы. Перамога дэмакратыі ў Польшчы залежыць, між іншым і ад способу разьвязаньня нацыянальных пытаньняў.

Найгорш было-б заставацца пры страўсавай мэтодзе зацягваньня і адкладаньня на „пазьней".

*Часу не маем, ані мы, ані нацыянальныя меншасьці.*

Як бачым з гэтага артыкула, нават і польскія дэмакратычныя партыі нарэшце пачынаюць разумець неабходнасьць рашучай зьмены ўрадовай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў.

Нам хочацца верыць, што гэты цьвярозы голас польскіх дэмакратаў не застанецца бяз водгуку, і што ўрад Маршалка Пілсудскага, урад, які ўзяў на сябе цяжкі абавязак маральнай санацыі польскага дзяржаўнага жыцьця, зразумеўшы ўсю паважнасьць сытуацыі, пяройдзе нарэшце ад слоў да чыну.

# РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

## У Польшчы.

### Забойства львоўскага куратара.

19 кастрычніка у Львове, на Каралеускай вуліцы, забіты куратар львоўскага школьнага вокругу С. Сабінскі. Як пішуць польскія газэты, забойства гэтае мае палітычную падставу. Сабінскага вельмі ня любілі ўкраінцы за ўвядзеньне „языковых" законаў і зачыненьне ўкраінскіх школаў. У апошнія дні забіты атрымоўваў шмат пісьмаў з пагрозамі ад тайных украінскіх арганізацыяў. У зьвязку з забойствам Сабінскага паліцыя зра-

---

— А я лічу — падняўся сэкрэтар—што на чатырох наʻт мала, бо Татунька сам можа за чатырох..

— Садзіся... Табе заўсёды мала — абрэзаў доктар — панімаецe-лі, хоча мяне зусім без парток пакінуць...

„Віцэ" нахінуўся да самага вуха старшыні і зашапатаў:

— Арсеній Васільевіч! Асігнавать можно, но только постольку, поскольку... а кромѣ таго надо подумать і о газетѣ...

— Добра, добра! адмахнуўся старшыня.

— А апрача таго — дадаў сэкрэтар — я прапаную і зьезд на некалькі дзён адлажыць...

— Што ізноў адлажыць?!. У каторы-жа гэта раз, панімаецe-лі?.. — і доктар паглядзеў на „дарадчыка".

— Сэкрэтар праўду кажа — сказаў „дарадчык" — пакуль мы ня высьвятлім місіі п. Татунькі ад зьезду трэба ўстрымацца...

— Ну добра — згадзіўся доктар. — Садзіся сэкрэтар і пішы пратакол...

— Га?! запытаўся сэкрэтар.

— Да ты не гакай—што ня трэба дык заўсёды добра чуеш — пратакол пішы ..

І аднагалосна ухвалілі: з „асабістых" грошаў пана доктара высыгнаваць пэўную суму на гутарку з п. Татунькай, а зьезд адлажыць на чатыры дні...

— Ну цяпер ўсё ў парадку... пойдзем... падняўся, паціраючы рукі маўчаўшы да гэтага часу „абшарнік".

А тымчасам п. Татунька, затрымаўшыся на вуліцы Пётры і Паўла пад № 909, дзе быў радушна і гасьцінна прыняты, ўсю ноч праспаў як забіты, і толькі часам падыймаў такі храп і сапеньне, што абуджалася гаспадыня, а дзеці нават саскалівалі з ложкаў і падбягалі да вокнаў, паглядаючы, ці не аўтобусы таткіны czasem wjechali do dziedzińca...

Устаў ён досьць позна і спачатку нямог уцяміць сабе дзе знаходзіцца. Ці ў Празе—гэтак гасьціннай для беларусаў, ці ў Коўні, дзе ён без усялякіх прычынаў быў засаджаны ў турму і змушаны быў там абвясьціць галадоўку, а можа

біла шмат вобыскаў і арыштаў сярод украінцаў. Вядзецца энэргічнае сьледзтва, якое пакульшто ня дала рэзультатаў.

### Дабаўка да пэнсіі ўрадоўцам.

На паседжаньні Рады Міністраў у суботу 23 кастрычніка, пастаноўлена выдаць урадоўцам 20 працэнтаў дабаўкі да пэнсіі. Дабаўка гэтая будзе выплачана ў дзьве раты: 15 лістапада і 15 сьнежня. Апрача таго пастаноўлена ўнясьці ў бюджэт першага кварталу будучага году 10 прац. дабаўкі да цяперашняй пэнсіі ўсім урадоўцам.

### Бюджэт на 1927 год.

Урадам апрацаваны і хутка пяройдзе на разгляд Сойму бюджэт на 1927 год. Паводле бюджэту дзяржаўныя даходы ў 1927 г. аблічаны на суму 1 899.252.571 зл., а выдаткі на—1.898.948.702 зл. Гэткім чынам даходы перавышаюць расходы.

### Бандыт Зялінскі — забіты.

У мінулую нядзелю варшаўская паліцыя даведалася, што вядомы бандыт Зялінскі, якога да гэтага часу ніяк не маглі злавіць, хаваецца ў сваіх сваякоў на Прыакаповай вуліцы. Зараз-жа былі высланы вывядоўцы, каб захапіць бандыта. Калі паліцыянты ўвайшлі ў пакой, дзе быў Зялінскі, апошні выцягнуў з-пад падушкі рэвальвэр і пачаў страляць. Паліцыянты адказалі залпам і забілі бандыта.

### Бісьпінг апраўданы.

18 кастрычніка Акружны Суд у Горадні разглядаў справу вядомага па працэсу аб забойстве кн. Друцкага Любэцкага--Бісьпінга. Гэтым разам Бісьпінга вінавацілі ў забойстве сялян і падпале вёсак у часе нямецкай акупацыі. Суд Бісьпінга апраўдаў.

### Справа забойцы Ліндэ.

Вышэйшы ваенны суд зацьвердзіў прысуд ваенна-акружнага суда, якім сэржант Тшэмелеўскі за забойства Ліндэ засуджаны на 10 гадоў катаргі.

## Заграніцай.

### Суд над апазыцыяй.

Правадыры бальшавіцкай апазыцыі Троцкі, Зіноўеў, Пятакоў, Камянеў і інш. апублікавалі „пакаянную“ дэклярацыю, у якой заяўляюць аб сваім поўным падпарадкаваньні пастановам зьезду комуністычнай партыі. Аднак, ня гледзячы на гэтае „пакаяньне“, цэнтральны камітэт партыі аддаў іх пад суд, які пастанавіў выразіць „парыцаньне“ Троцкаму, Зіноўеву і Камяневу за іхняе ўпартае апазыцыянэрства. Апрача гэтага пастаноўлена выключыць Троцкага з палітбюро, а Зіноўева адсунуць ад кіраваньня справамі Комінтэрну. Весткі гэтыя атрыманы па бальшавіцкаму радыо з Масквы.

### XV зьезд компартыі.

26 кастрычніка пачаўся XV зьезд комуністычнай партыі. У Маскве, дзе адбываецца зьезд, прыняты ваенныя меры перасьцярогі на выпадак выступленьня апазыцыі. На зьездзе мае выступіць Сталін са спэцыяльным дакладам аб апазыцыі.

### Немцы ўвайшлі ў склад новага Чэхаславацкага кабінэту.

У рэзультаце апошняга ўрадовага крызісу, у чэскім парлямэнце стварылася новая ўрадовая большасьць, у склад якой уваходзяць 37 немцаў.

Новая рада міністраў мае ў сваім складзе 2 немцаў.

### Магчымасьць павароту Вільгельма ў Нямеччыну.

У Францыі вялікае ўражаньне зрабілі чуткі аб магчымасьці хуткага прыезду б. кайзэра Вільгельма ў Нямеччыну. Пуанкарэ заявіў, што калі-б гэта запраўды здарылася, дык Францыя будзе дамагацца выдачы Вільгельма і аддачы

---

ён яшчэ проста сьпіць, а гэтая вэранда, дзе ён ляжыць на канапцы, і ўчарашняе здарэньне на пагранічу, — можа ўсё гэта толькі сон...

І ўспомнілася яму, як калісь гэтак сама без „przepustki“, але з добрай сумаю заграничнае валюты, прабіраўся ён за граніцу і гэтаксама, як і цяпер, заблутаўся ў калючым дроце, але калі выблутаўся, дык хаця і быў ужо вольны, але застаўся без „валюты“... І ня верылася, і здавалася тагды, што гэта сон, інакш і быць ня можа, але... валюты ня было, ня было на'т і квітка — і ён галасна ўздыхнуў.

І гэты ўздох яго праляцеў праз цэлую хату і перапалохаў усю сямью гаспадара — дзеці паўскаквалі ад сьнеданьня і, пазіраючы ў кірунку вэранды, прыцісьнуліся адзін да аднаго, гатовыя, як здавалася, зараз-жа, раскрычацца і расплакацца. Два вількі, выскачыўшы з пад стала, як шалёныя з брэханьнем кінуліся спачатку да дзьвераў вэранды, а пасьля адзін праз вакно да самае вэранды і, падняўшы правую нагу пачаў нешта абнюхваць, а другі ля дзьвяроў завыў... Гаспадыня то чырванела то бляднела—czy nie do Łatwji on się zbiera wyjeżdżać—зьвярнулася яна да мужа — pójdź Stacha i zobacz... і popros pana Tatańka na sniedanie“... І гаспадар падняўся іськіраваўся на вэранду.

— А...а, бандыта! Устаў ўжо! — жартабліва прывітаў яго гаспадар — на... вось газэты... ўва ўсіх надрукавана — і аб прыезьдзе і аб місіі... Некалькі рэпарцёраў было ўжо... Сам камісар ураду прысылаў, каб зьявіўся...

— А і камісар ураду? — перапытаўся Татунька — ўжо ляпей!.. Але пачакаюць... і не такія яшчэ чакалі, а Татунька ня воўк — любіць гарады — і ў лес не уцячэ...

— Dosyć już tej gawędy — пачуўся голас гаспадыні — proszę iść do stołu, i tak wszystko stygnie...

— І то праўда — дадаў гаспадар — парай па чарцы... і яны падняліся.

(*Канец будзе*)

# АБВЕСТКА.

Група сяброў б. Беларускага Грамадзянскага Сабраньня склікае агульны сход сяброў гэтага Сабраньня на дзень 7 лістапада г. г., а 12 гадз. дня, у памешканьні Т-ва „Беларуская Хатка ў Вільні“ — Вільня, вул. Сьв. Анны № 2.

Парадак дзённы: ліквідацыя маемасьці б. Грамадзянскага Сабраньня.

Увага: Калі-б на вызначаную гадзіну не сабралася вымаганая для правамоцнасьці сходу лічба сяброў, дык а 1 гадз., гэтага ж дня, там-жа адбудзецца другі сход, які будзе лічыцца правамоцным пры кожнай лічбе сабраўшыся.

---

яго пад суд міжнароднага трыбуналу.

### Немцы гатуюцца да рэваншу.

На апошнім паседжаньні французкай рады міністраў, прэм'ер Пуанкарэ адчытаў статут нямецкага Рэйхсвэра. Паводле гэтага статуту, галоўнай задачай рэйхсвэру зьяўляецца падрыхтоўка да адабраньня Эльзаса, Лётарынгіі, Гданска, гданскага калідору і Шлёнску.

### Навальніца на Кубе.

Паводле вестак з Гаваны, страшэнная навальніца, якая пранеслася апошнімі днямі над Кубай і Антыльскімі астравамі, нарабіла шмат спусташэньняў. Агульная лічба забітых дасягае 600 чалавек, 9.000—ранена і каля 6.000 засталася бяз даху над галавой. 10 мястэчкаў зруйнавана ушчэнт. Страты дасягаюць 100 мільёнаў даляраў.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

У апошні час перамога ў хатняй кітайскай вайне ізноў пераходзіць на бок чырвоных. Кантонская армія, разьбіўшы гэн. Фана вядзе наступленьне на Шанхай, які абкружаны чырвонымі з трох бакоў. Гэн. Чанг-Тсо-Лін ня можа прыйсьці на падмогу Шанхаю, бо яго затр млівае народная армія гэн. Фэнга.

### Замах на персідскага Шаха.

З Тэгэрану паведамляюць, што браняві аўтамабіль, які эскортаваў шаха ў часе яго паездкі па провінцыі, узарваўся ад няведамай прычыны. Шах застаўся цэлым Прыпушчаюць, што ў данным выпадку меў месца тэрорыстычны замах на шаха.

### Безрабоцьце ў Расеі.

Эканамічны крызіс у Саўдэпіі выклікаў вялікае безрабоцьце. Фактычная лічба безработных трымаецца ў сэкрэце. Ведама толькі. што ў аднэй Маскве ёсьць 163.000 безработных.

### „Ануляваньне“ чырвонцаў.

Маскоўскія савецкія банкі цыркулярна паведамілі заграничныя банкі аб тым, што чырвонцы, якія знаходзяцца загранiцай ня будуць прыймацца савецкім урадам, бо чырвонцы гэтыя „незаконна“ вывезяны з Расеі. Вестка гэтая выклікала паніку на загранічных біржах, якія адмаўляюцца прымаць чырвонцы.

### Найвялікшы аэраплян.

У Нямеччыне будуецца вялізны пасажырскі аэраплян, разлічаны на 100 пасажыраў. Аэраплян гэты мае 128 мэтраў даўжыні і 4 маторы. За крыльлямі знаходзіцца памешканьне для каманды і багажа, а ў пярэдняй часьці каюты для пасажыраў, на 10 чалавек кожная. Апрача гэтага ёсьць спэцыяльныя пакоі для рэстарацыі і курыльні. Аэраплян гэты будзе ўжывацца для пералётаў праз акіян.

## Кангрэс нацыянальных меншасьцяў.

Гэтымі днямі ў Варшаве адбылася канфэрэнцыя-зьезд прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў Польшчы. На канфэрэнцыі былі прадстаўнікі Беларусаў, Украінцаў, Немцаў і Літоўцаў. З боку беларусаў і Украінцаў былі прадстаўлены толькі ўмяркаваныя кірункі палітычнай думкі. Пакульшто гэты зьезд абмяжаваўся разгляд ам пытаньняў тактычнага характэру. Пытаньне аб стварэньні агульнаго фронту на час выбараў пакульшто не разглядалася. У рэзультаце нарад Зьезду было пастаноўлена стварыць агульнае бюро прэсы ў мэтах прапаганды ў краю і за граніцай.

Усе іншыя пытаньня пастаноўлена абгаварыць на наступнай канфэрэнцыі, якая мае адбыцца ужо пры большым ліку вучасьнікаў, па магчымасьці прадстаўнікоў усіх кірункаў палітычнай думкі нацыянальных меншасьцяў Польшчы. Канфэрэнцыя гэта была склікана Украінскім нацыянальным дэмакратычным аб'еднаньнем, г. зв. УНДО.

Характэрна, што на канфэрэнцыі прдстаўнік расейскай меншасьці быў толькі як наглядчык і не прымаў вучасьця ў нарадах.

---

## Эўрапэйскі ўраджай хлеба.

Паводле аблічэньня міжнароднага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту ў Рыме, ураджай хлеба ў гэтым годзе па паасобных эўрапэйскіх дзяржавах быў гэтакі (першая лічба паказвае ўраджай 1926 г. у мэтрычных цэнтнарах, а другая—ў навесах — 1925 г.):

| | | |
|---|---|---|
| Вялікабрытанія і Ірляндыя . . . | 7.000 | (6.800) |
| Францыя . . . . | 32.000 | (41.000) |
| Нямеччына . . . . | 14.000 | (14.800) |
| Італія . . . . . . | 25.500 | (30.000) |
| Гішпанія . . . . | 19.000 | (20.350) |
| Бэльгія . . . . . | 1.500 | (1.700) |
| Галяндыя . . . | 600 | (600) |
| Швэцыя і Нарвэгія | 1.400 | (1.800) |
| Данія . . . . . | 900 | (1.100) |
| Аўстрыя . . . . | 1.300 | (1.500) |
| Швэйцарыя . . . | 600 | (700) |
| Чэхаславакія . . . | 4.400 | (4.500) |
| Грэцыя . . . . . | 1.000 | (1.400) |
| Фінляндыя . , . . | 100 | (100) |
| Партугалія . . . | 1.000 | (1.500) |
| Расея . . . . . | 75.000 | (83.000) |
| Румынія . . . . | 13.500 | (13.000) |
| Баўгарыя . . . . | 5 300 | (6.300) |
| Юга-Славія . . . | 9.700 | (10.300) |
| Вэнгрыя . . . . | 8.400 | (8 900) |
| Польшча . . . | 6.800 | (7.200) |
| Рэшта дзяржаваў | 1.000 | (1.000) |
| Разам . . | 230.000 | (257.550) |

Як бачым з гэтых лічбаў, агульны эўрапэйскі ўраджай хлеба ў гэтым годзе на 27.550 цэнтнараў меншы, чым у мінулым годзе.

# ПА БЕЛАРУСІ.

## СМАРГОНЬ.

У часе сусьсветнай вайны наша мястэчка больш за ўсё пацярпела. Праходзіўшая тады праз Смаргонь лінія ваеннага фронту не пакінула цэлым ніводнага дома, ні воднай хаты. Але людзі як мурашкі. Разрыеш-раскапаеш іхні муравейнік, ажно бач праз нейкі час ізноў рупліва пабудавалі ўсё па даўнішняму.

Перад вайной наша мястэчка славілася сваімі баранкамі, якія можна было пабачыць цэлыя вазы на ўсіх беларускіх кірмашах: шмат іх вывазілася і да вас у Вільню на „Казюка", на сьв. Юра, на сьв. Яна, на сьв. Пётры ды ў іншыя кірмашовыя дні. Апрача таго была тут развіта гарбарская прамысловасьць, якая дастаўляла выробленыя скуры для суседніх мястэчкаў і сёлаў.

Мо' Бог дасьць ізноў Смаргонь закіпіць даўнішнім жыцьцём і будзе ізноў адным з найбольш рухавых мястэчкаў Заходняй Беларусі.

Пішучы карэспандэнцыю саСмаргоні, не магу ўстрымацца, каб не ўспамянуць аб памятнай „смаргоньскай акадэміі". Заснаваная дзякуючы панскай фантазіі князя Радзівіла, якога называлі „Пане Каханку", гэтая акадэмія мела на мэце гадаваць і дрэсіраваць маладых мядзьвядзёў, якіх пасьля куплялі цыганы або іншыя людзі і вадзілі з сабой па вёсках і гарадах, зарабляючы грошы. Гэта былі апошнія сьляды скамарошаства на Беларусі, бо ж ведама, што даўнішнія скамарохі, апрача розных сваіх скамарошых гульняў, таксама вадзілі з сабой і дрэсіраваных зьвяроў, часьцей за ўсё мядзьвядзёў. І можа-б доўга істнавала сьмяхотная „смаргонская акадэмія", каб у пачатку мінулага сталецьця ў Вільні коні нейкага пана не перапалохаліся ішоўшага па вуліцы мядзьведзя з праважатым, разьнясьлі павозку, а самаго пана сільна акалечылі.

Тады загадана было зачыніць „акадэмію".



АБРАЗКІ ВІЛЬНІ. Г. зв. Па-Францішканскія муры на Троцкай вуліцы.

# Гутаркі аб гаспадарцы.

## Гнаеньне поля аборнікам.

Пры беднасьці нашай зямелькі добрае ўгнаеньне поля мае вялікае значэньне.

Адным з галоўных гнояў, якімі карыстаюцца сяляне, зьяўляецца аборнік. Але часта-густа бывае гэтак, што ня гледзячы на добрае угнаеньне поля, гаспадар мае мала з яго карысьці. Здараецца гэта дзеля таго, што мала хто з гаспадароў ведае, як ляпей рабіць угнаеньне.

Каб гной даваў найвялікшую карысьць трэба ведаць, як ім карыстацца.

Аборнік мае ў сабе ўсе тыя часткі, якія патрэбны для расьліны: азот, фасфоравы квас, паташ і вапну, і гэты гной зьяўляецца самым лепшым ад усіх гэт. зв. штучных гнояў. Але каб гной меў сілу, трэба, каб зямля старыстала ўсе солі, якія ў ім знаходзяцца.

Калі гной ляжыць доўгі час на паверсі, дык солі улятняюцца і ад гною застаецца толькі адна сухая матэрыя, якая карысьці не дае.

Адным з найлепшых спосабаў перахаваньня аборніку зьяўляецца перахаваньне яго ў аборы, дзе аборнік цэлую зіму ці лета ляжыць пад быдлам. Але і гэты спосаб мае шмат недачотаў, якія лёгка абыйсьці. Самая цэнная рэч у адпадах быдла гэта мача, менш вартасьці мае кал. Трэба ведаць, як зрабіць, каб мача ня ўлятнялася (ня высыхала). Вялікую ролю у гэтым адыгрывае падсьцілка. Нашыя сяляне на падсьцілку больш за ўсё ўжываюць салому, а некаторыя падсьцілаюць і мох. Часта кажуць — „трэба нарабіць больш гною" — і валяць у абору шмат саломы ці моху, думаючы, што гэтак будуць мець больш карысьці. Але гэтак думаюць абмылкова, бо салома і мох, як гной, можна сказаць напэўна вартасьці ніякай ня маюць. Салома і мох толькі затрымліваюць у сабе плынныя часткі адпадаў. Праўда, перагніўшы яны даюць трохі карысьці, але пры выключнай падсьцілцы мохам і саломай больш губіцца карысных частак, чым дадаецца.

І вось тут на падмогу гаспадару павінен прыйсьці торф, якім гэтак багата Беларусь. Торф — гэта мёртвая матэрыя розных расьлінаў і сам па сабе пажытку дае мала. Але ён мае здольнасьць уцягваць у сябе ваду нават у 500—600 разоў больш, чым сам важыць. Дзеля гэтага, калі будзем ужываць на падсьцілку торф, дык самая цэнная частка адпадаў — мача не прападзе, а затрымаецца ў торфе. Дык пасьля таго, як выберацца стары гной, трэба зараз-жа нава-

# СЯЛЯНЕ і РАКА.

(З БАЕК КРЫЛОВА).

Ад разарэньня,
Якое прычынялі ім руччы штогодзьдзя
Вясной і восеньню ў палаводзьдзе —
Ня стала у сялян цярпеньня.
Дык вось, сабраўшыся нек мужыкі,
Усю справу гэту абсудзілі
І парашылі:
Трэ' з жалабай зьвярнуцца да ракі.
У гэтую раку усе руччы ўпадалі,
Дзеля таго яе сяляне пачыталі
Начальствам ўсіх руччоў суседніх,
І спадзяваліся ад яе
За шкоды ўсе свае
Адшкадаваньняў адпаведных.
А галоўнае: загаду руччам усім
Каб шкодзіць ўжо ня сьмелі ім.
А шкоды усе, што ім руччы зрабілі,
Сяляне ў жалабе сваей пералічылі:
У аднаго — падмочана і згніла жыта;
Ў таго — запруда у млыне размыта.
Пры самай вёсцы — мост зьнясло,
На сенажаці ілу нанясло;
Утопла шмат жывёлы з вёскі,
З гародаў зьнесяны бярвёны, дошкі.
Й словам — куды ні абярнешся—
На шкоду нейкую наткнешся.
А што найгорш і больш абідна,
У чым прызнацца нават стыдна —
Нікчэмныя руччы усё гэта нарабілі!
Хай глыбінёй бягаты-б' былі,
Ці многа мелі бы вады...
А то... Ну проста абурэньне!..
Чаму рака? Стаяць на ёй вось гарады,
А ня чуваць пра гэткія здарэньні.
Цячэ рака спакойна і ня псуе
Дабытку жыхароў бярэжных.
Відаць як сьлед закон яна шануе.
А, як начальства, дык і руччам мяцежным
Рака павінна наказаць
Як трэ' законы шанаваць.
Пайшлі з прашэньнем да ракі
Ад вёскі нашай хадакі.
Прыйшлі, глядзяць,
І нос на квінт спусьцілі...
Убачылі яны між рэчаў што ракою плылі
Свае, руччамі зьнесяныя да ракі...
Паглядзелі на гэта бедныя, уздыхнулі
Дый моўчкі ў хаты павярнулі...

---

Прыклад здаецца ясны нам:
Дарэмна праўды хто шукае
І справядлівасьці ўзывае
Там,
Пад'ўладнаго дзе старшы пакрывае
Й дзеліць ўсё з ім папалам!

**Б Друцкі.**

---

зіць у абору торфу і добра яго ўбіць. Для чыстаты, апрача торфу, паверх трэба падаслаць трохі саломы.

Ня меншае значэньне мае і самы спосаб вывазу гноя ў поле. Часта можна бачыць на нашых палёх, як гаспадар, навазіўшы гной у поле, раскідае яго невялічкімі купкамі і ён ляжыць там гэтак тыдзень, а нават і больш. *Гэтак бязумоўна рабіць нельга.* Бо калі гной ляжыць у малых купках у полі, дык солі, якія ў ім знаходзяцца пад уплывам паветра надта скора перарабляюцца ў розныя газы, якія ўлятняюцца і ад гною застаецца толькі адна сухая матэрыя. І толькі невялічкая частка іх з-пад самай купкі пяройдзе ў зямлю. Ляпей за ўсё, навазіўшы гной у поле, раскідаць яго і зараз-жа загараць, тады гной накрыты зямлёю, аддае ёй усе свае солі. Калі іншыя работы нерашкаджаюць гаспадару зараз-жа загараць гной, дык трэба хаця-бы раскідаць яго тонкім слаям. З расой ці з дажджом солі адыйдуць тады ў зямлю. Праўда, што і ў гэтым выпадку частка солі і нават большая ўлятніцца ў паветра, але крыху дастанецца і зямлі.

Гной гэткая дарагая рэч, што яго заўсёды трэба як найляпей скарыстаць: трэба аддаваць яго пад такія расьліны, якім ён дае найбольш ікарысьці. Больш усяго карысьць гной дае земляплодам г.ё бульбе, буракам і г.д. Між іншым аграномы ня радзяць садзіць і сеяць па сьвежаму гною. Гной, які праляжыць у зямлі зіму, мае вялікшую сілу. Дзеля гэтага ўвесь зімовы гной, як больш сьвежы, трэба аддаць пад бульбу, бо яна менш баіцца сьвежага гною. Для кармавых буракоў—гной абавязкова трэба вывазіць у восень і загараць на з му.

Абмылкова некаторыя думаюць, што чым больш даць гною на дзесяціну, тым ляпей. На дзесяціну найбольш трэба даваць 2400 пудоў гною, альбо 100—120 вазоў. Больш даваць ня варта; ляпей даваць гной часьцей.

Апрача гэтага кожнаму гаспадару трэба ведаць, што вартасьць гною шмат залежыць ад таго корму, які ён дае скаціне. Калі трымаць скаціну на аднэй саломцы ці сечцы, дык і гной з-пад скаціны будзе худы і карысьць ад яго малая.

Але пераход на лепшы корм для скаціны патрабуе і больш інтэнсыўнае гаспадаркі, аб вядзеньні якой мы пагаворым у наступным нумары.

*Б.*

# ХРОНІКА.

### Беларускае Нацыянальна-Дэмакратычнае Аб'яднаньне.

Гэтымі днямі ў Вільні адбылася арганізацыйнае сабраньне ініцыятыўнай групы Беларускага Нацыянальна-Дэмакратычнага Аб'яднаньня (Б.Н.Д.А). Пастаноўлена ў бліжайшыя дні склікаць у Вільні канфэрэнцыю зьезд сымпатыкаў ідэі Беларускага нацыянальна дэмакратычнага аб'яднаньня з мэтай апрацаваньня прагра: ы і тактыкі арганізацыі. Для падгатоўкі канфэрэнцыі выбраны арганізацыйны камітэт.

Па справам зьвязаным з арганізацыяй Аб'яднаньня трэба зьвяртацца да сэкрэтара арганізацыйнага камітэту Б. Друцкага-Падбярэскага, які прымае штодня ад 11 да 1 гадз. у памешканьні „Беларускай Хаткі".

### У Т-ве „Беларуская Хатка".

Дзеля таго, што рэмонт памешканьня, ў якім будзе месьцица „Беларуская Хатка" ня можа быць хутка закончаны, Таварыства прымушана была наняць часова іншае памешканьне на вул. Сьв. Анны, у якое і перанесяны ўсе ўстановы „Хаткі". У гэта ж памешканьне перайшла і Рэдакцыя нашай газэты.

### Угодкі заняцьця Вільні.

9 кастрычніка, ў шостыя ўгодкі заняцьця Вільні гэн. Жэлігоўскім, у катэдральным касьцеле адбылася ўрачыстае набажэнства, на якім былі прысутнымі міністар Станевіч, ваявода Рачкевіч, гэнарал Дзержаноўскі, прадстаўнікі магістрату і грамадзкіх арганізацыяў. Пасьля набажэнства адбыўся вайсковы парад.

11 кастрычніка на гарнізонным магільніку была адслужана паніхіда па жаўнерам Беларускай дывізіі, якія былі забіты ў часе заняцьця Вільні ў 1920 годзе.

### Крэдыты для пацярпеўшых ад неўраджаю.

Польскі Банк вызначыў 2 з паловай мільёна злотых на выдачу крэдытаў тым земляробам Віленшчыны і Навагрудчыны, якія пацярпелі сёлета ад неўраджаю. Крэдыты гэтыя будуць выдавацца пад вэксэлі кааператыўных арганізацыяў, якія павінны быць жыраваны зямельным банкам і забясьпечаны самаўрадам.

### Канфэрэнцыя ў ваяводзтве.

22 кастрычніка у ваяводзтве, пад кіраўніцтвам ваяводы Рачкевіча, адбылася канфэрэнцыя старастаў тых паветаў, якія ў гэтым годзе пацярпелі ад неўраджаю. Канфэрэнцыя апрацавала плян дапамогі і выдачы насяленьню жыта з запасаў, атрыманых з міністэрства.

### Новая ўстава аб гербавых аплатах.

У апошнім нумары „Dzien. Ustaw" апублікавана новая ўстава аб гербавых аплатах. Паводле гэтай уставы кожнае прашэньне трэба аплачваць гербавымі маркамі на 3 зл. Рахункі да 20 зл. звольнены ад гербавай аплаты.

### Юбілей „Кгупісу".

24 кастрычніка газэта „Кгупіса" сьвяткавала 10-тыя ўгодкі свайго істнаваньня.

„Кгуніса" зьяўляецца адзінай у нас беларускай газэтай, якая друкуецца лацінікай. Першы нумар „Кгупісу" выйшаў у Петраградзе 8 кастрычніка 1917 году. У хуткім часе газэта была перанесена ў Менск, а пасьля ў Вільню. У сучасны мамэнт „Кгупіса" зьяўляецца органам Беларускай Хрысьціянскай дэмакратыі і мае значны ўплыў і папулярнасьць сярод беларусаў каталікоў. Фактычнымі кіраўнікамі газэты зьяўляюцца беларускія ксяндзы, на чале з кс. Ад. Станкевічам.

На сьвяткаваньні юбілею, якое адбылася ў памешканьні рэдакцыі, апрача беларусоў, былі прадстаўнікі польскага і лігоўскага грамадзянства, а таксама дэлегаты з провінцыі.

### Падаткі ў лістападзе.

Да 15 лістапада павінна быць унесяна II рата падатку ад маемасьці (грунтовага) за 1926 год. На лістапад прыпадае гэтаксама тэрмін аплаты гарадзкіх і некаторых сельскіх падаткаў за III квартал. У лістападзе ж пачнецца прымусовае спаганяньне незаплочаных да гэтага часу папярэдніх ратаў падатку ад маемасьці.

### Цана на жыта.

У апошнія дні цана на жыта дайшла да 36 злотых за 100 кілёграмаў. Прадбачыцца, што ў хуткім часе жыта значна патанее.

### Курс на грошы.

28 кастрычніка плацілі:

| | |
|---|---|
| За даляр . . . . | 9 зл. 02 з пал. |
| „ залаты рубель . | 4 зл. 76 гр. |
| „ сярэбраны „ . | 2 зл. 80 гр. |
| „ чырвонец „ . | 41 зл. 76 гр. |

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Прашу не адмовіць надрукаваць у Вашай паважанай газэце наступнае:

У зьвязку з надрукаваньнем у № 25 газэты „Беларускае Слова" весткі аб тым, што я нібыта выйшаў са складу сяброў Т ва „Беларуская Хатка ў Вільні"—гэтым заяўляю, што я са складу сябраў Т-ва „Белар. Хатка" н е в ы х а д з і ў.

Газэту „Беларускае Слова" прашу перадрукаваць гэтае маё спраставаньне.

З пашанай Я. ШЫБКА.

5—X—26.

Ад Р э д а к ц ы і: Пісьмо гэтае была атрымана рэдакцыяй яшчэ да выхаду N 1 „Белар. Хаты", але з прычыны нястачы мейсца не магло быць у ім зьмешчана

# ЮРЫДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ.

**Грам. Ю. К—пу.** *Запытаньне*: Яшчэ перад вайной брат мой (ужо памёршы), ня маючы ўласных дзяцей усынавіў нейкага хлапца-сірату. Пасьля сьмерці брата гэты усыноўлены атрымаў усю маемасьць свайго усынавіцеля. Мы судзіліся з ім аб гэтым, але праігралі і ён застаўся гаспадаром маемасьці. Цяперака, ў гэтым годзе, памёр дзядзька мой і памёршага брата. Пасьля яго нікога, апрача мяне, з насьледнікаў не засталося, бо дзеці яго памерлі ў часе бежанства Зямлю і гаспадарку дзядзькі я ўжо забраў сабе. Тымчасам да гэтай маемасьці пачынае чапіцца ўсыноўлены маім братам. Ці мае ён нейкае права на насьледзтва пасьля дзядзькі ўсынавіцеля.

*Адказ*: Калі ён сам па сабе, не праз усынавіцеля, ня крэўны насьледацелю, дык ніякага права на насьледзтва ня мае. Ен мог атрымаць толькі тое, што засталося пасьля усынавіцеля і што ён ужо атрымаў. Трэба калі будзе суд, даказаць, што ён зусім чужы вашай і вашага памёршага дзядзькі сямье.

**Грам. А. Г—ку:** Прашэньне па вашай справе паслана вам заказным пісьмом. Падпішэцэ і падайце як паказана ў прашэньні.

**Грам. Г. Я—ку.** Ніхто ня мае права адмаўляцца ад паказаньняў на судзе аб тым, што яму ведама. Калі нічога ня ведаеце — заявіце аб гэтым пры дапросе, але саўсім адмовіцца можаце толькі ў тым выпадку, калі паказваць прыходзіцца проці бацькі, маткі, родных братоў, сясьцёр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, вул. Сьв. Анны, № 2. (Wilno, ul. Św. Anny, № 2) Адміністрацыя адчынена ад 11 да 2 г. штодня. Рэдактар прымае ад 12 да 1 гадз.

Падпісная цана: на адзін месяц з перасылкай 1 зл. на тры месяцы — 2 „ 50 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК: перад тэкстам — — — 20 гр. сярод тэксту — — — — — — — — — — 25 гр. на апошняй стар.— — — — — — — — — 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. Калюмна мае 3 шпальты.

Рэдактар А. Кабычкін. Друк. „Новочэсна“ Вільня Біскупья 12. Выдавец—Т-ва „Беларуская Хатка ў Вільні“.